# ТРЭЦЯЕ ПАСЛАННЕ СВЯТОГА ЯНА

**(1-15)**

[1]Старэйшы — умілаванаму Гаю, якога я люблю ў праўдзе.
[2]Умілаваны, малюся, каб ты быў здаровы і каб ва ўсім шчасціла табе, як
шчасціць твёй душы. [3]Я вельмі ўзрадаваўся, калі прыйшлі браты і засведчылі
пра тваю праўду і што ты пастулаеш па праўдзе. [4]Для мяне няма большай
радасці, як чуць, што мае дзеці жывуць у праўдзе.
[5]Умілаваны, ты пастулаеш згодна з вераю ў тым, што робіш для братоў і
чужаземцаў. [6]Яны засведчылі перад Касцёлам пра тваю любоў. Калі адправіш
іх па-Божаму, добра зробіш. [7]Бо дзеля імя Хрыстовага яны пайшлі, нічога не
беручы ад язычнікаў. [8]Таму мы павінны прымаць такіх людзей, каб стаць
супрацоўнікамі праўды.
[9]Я напісаў ужо Касцёлу, але Дыятрэф, што любіць першынство сярод іх, не
прымае нас. [10]Таму, калі прыйду, узгадаю яго ўчынкі, якія робіць, зласловячы
нас. Не задавольваючыся гэтым, і сам не прымае братоў, і забараняе тым, хто
хоча прымаць, ды выганяе іх з Касцёла.
[11]Умілаваны, не наследуй зло, але дабро. Хто чыніць дабро, той ад Бога, а
хто чыніць зло, той не бачыў Бога.
[12]Пра Дыметрыя ўсе сведчаць, нават сама праўда. І мы сведчым, а ты
ведаеш, што сведчанне нашае праўдзівае.
[13]Пра многае меў напісаць табе, але не хацеў пісаць атрамантам і пяром,
[14]бо спадзяюся хутка ўбачыць цябе і паразмаўляць з табою.
[15]Спакой табе. Вітаюць цябе сябры. І ты прывітай сяброў пайменна.

---